Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ

№5(100), красавік, 2019г.

# 100 НУМАРОЎ ВІЦЕБСКАГА "МАГІСТРАТА"

**Больш за 20 гадоў прайшло з пачатку выпуска першага нумара віцебскай фронтаўскай газэты.**

Інфармаванне грамадзянаў на той момант было адным з важных накірункаў дзейнасці апазіцыйных арганізацыяў, і першыя выпускі маланакладнага партыйнага выдання рабіліся з дапамогай сябраў грамадскіх арганізацый. Першая спроба аднаўлення была зроблена ў 1998 годзе Міхалам Паўлавым і Юрам Сьцяпанавым, нумар выйшаў з дапамогай клуба "Узгор'е" і цэнтра "Контур". Другая спроба перыядычнага выдання газэты была на пачатку 2000 года, калі з дапамогай ужо віцебскага Цэнтра падтрымкі моладзевых ініцыятываў "Контур" аднавілася праца рэдакцыі ў новым складзе. І вось праз якія непоўныя 20 год адзначаем выпуск 100 нумара выдання.



МАГІСТРАТ

Газэта вольнага горада Віцебска № 3, ліпень-жнівень, 1998 год

Лепш позна, чым ніколі

ВІЦЕБСКІ ДЗЁННІК

Стары храм

Магістрат

БЕЛАРУСКАЕ ВЫЗВОЛЬНАЕ ВОЙСКА

Тэмы нумара:

Магістрат

МЫ ПАМЯТАЕМ

ИЛЛЮЗИЯ

Магістрат

Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ і руху БНФ «Адраджэньне»

Полыхают тюльпаны
И несёт свои воды Двина.
Твою жизнь, тётя Фаня,
Взяла на закланье война.
И не выросли дети –
Они с мамой погибли во рву.
Я сегодня на свете
За них и дышу, и живу.
Нет могил и надгробий,
Безымянны остались в веках.
Догадайся попробуй,
Кто в тех проклятых временем рвах.
В страшном сне пусть не снится
Ужас тот не вернётся назад.
Помнит сердце те лица,
Что сегодня мне в душу глядят.
В поминальной молитве
Взлетают слова к небесам –
Это плач по убитым,
Погибшим, оставшимся там..
Их забыть не посмеем
И как эхо промчавшихся лет.
Пусть цветы пламенеют
И встаёт над рекою рассвет.

Сумная гадавіна

"Магістрат" быў заўсёды з жыхарамі Віцебска, інфармаваў аб значных падзеях краіны, вобласці і самога абласнога цэнтра. Публікацыі аўтараў газэты находзілі водгук у чытачоў: гэта і Маршы Свабоды, і адсутнасць мемарыяльнага помніка на месцы віцебскага гета , шматлікія і яшчэ дазволеныя мерапрыемствы ў цэнтры Віцебска, затрыманні актывістаў і рэпартажы з судовых пасяджэнняў. Падзеі Байкота выбараў у парламент, які сапраўды адбыўся ў 2000 годзе ў Віцебску, калі з чатырох акругаў выбары не адбыліся на трох з-за нехапкі патрэбнай колькасці выбаршчыкаў доўга яшчэ ўспаміналі жыхары горада. Падтрымка Сямёна Домаша як кандыдата на выбарах прэзідэнта Беларусі 2001 года таксама ў памяці чытачоў газэты. Першыя гады вытрымлівалась перыядычнасць выхаду, раз на месяц, потым з гэтым стала цяжэй - адсутнасць фінансаў для друку не дазвалала выпускаць "Магістрат". Але газэта выходзіла, распаўсюджвалась сярод сябраў партыі і жыхароў горада, расказвала аб стварэнні і распадзе партыйных кааліцыяў, ціску на свабоду слова і забарону масавых мерапрыемстваў у Віцебску, штрафах і рэпрэсіях. Памятаем 2006 год, калі на выбарах у гарадскі Савет дэпутатаў не зарэгістравалі ніводнага апазіцыйнага кандыдата, і дыскусію перад чарговым з'ездам Партыі БНФ, калі супернічалі тры кандыдата, а на самім з'ездзе перамог чацьвёрты. З архіва і кампутара зніклі некаторыя нумары газэты, гэта наступствы шматлікіх пераездаў з офіса на офіс, старэння кампутарнай тэхнікі і звычайнай неабачлівасці партыйцаў. Рэдакцыя вітала вяртанне герба "Пагоня" на афіцыйны герб і сцяг Віцебскай вобласці, віншавала Аляксея Янукевіча з абраннем на пасаду старшыні ПБНФ, агітавала за правядзенне аўтарэферэндума аб захаванні мытных пошлінаў на ўвоз аўтамабіляў без падвышэння, выдавала спецвыпуск "Свабоду палітзняволеным" у 2012 годзе з пералікам на той час адзінаццаці палітычных вязняў, падтрымлівала выступленне "дармаедаў" у Віцебску ў 2017 годзе, расказвала аб месцах пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў Паляі і Хайсы, сустрэчах з пісьменнікамі і паэтамі ў "Еўрапейскім клубе", і шмат чаго іншага было на старонках выдання за гэтыя гады.

Некалькі разоў затрымлівалі распаўсюднікаў газэты, канфіскоўвалі наклад і паперу для выдання, аўтараў і сябраў рэдакцыі трымалі ў ізалятары часовага ўтрымання да правядзення адміністратыўнага працэса, на якім дадавалі сутак і штрафаў да ўжо адсіжаных і выплачаных. Але рэдакцыя працуе, трымае сувязь з чытачамі, якія масавымі званкамі паведамляюць пра выдатныя артыкулы, як гэта было з патрабаваннем вярнуць у віцебскія двары дворнікаў, якіх і вярнулі ў склад домакіраўніцтваў па настойлівых прозьбах віцяблянаў.

Разам з аднапартыйцамі сумавалі і адпраўлялі ў апошні шлях Алеся Мудрачэнку, Сяргея Цярэнцева, Розу Пушкарову, Алеся Шутава, Нэлі Тупякову, Міхася Паўлава, зямля ім пухам. Зараз з'явіліся новыя героі рэпартажаў, новыя тэмы для дыскусій і развагаў, адно застаецца нязменным - боль за сваю зямлю, змаганне за лепшую долю і магчымасці для новых пакаленняў беларусаў.

І цяпер, калі сацыяльныя сеткі і андроіды паўсюдна выціскаюць з газэтных шапікаў папяровыя выданні, навіны чытаюцца з лёта і глытаюцца як смачныя цукеркі проста глытком на раз, застаюцца сталыя і правераныя часам чытачы, якія раз-пораз пытаюцца новы намар бэнэфаўскага выдання.

Чытайце "Магістрат"!

К.Смолікаў

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236 ААТ «Банк БелВЭБ» г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100 BIC SWIFT: BELBBY2X IBAN BY70 BELB 30151001470040226000 Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# “УСЁ ПА ШАБЛЁНУ”

**Трох віцяблян аштрафавалі на 102 рублі кожнага за фота на Дзень Волі.**

У судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску 11 красавіка разглядаліся адміністрацыйныя справы ў дачыненьні Міколы Качурца і братоў Уладзімера і Яраслава Кійко. Тры розныя судзьдзі сінхронна пакаралі кожнага з актывістаў штрафам у памеры 4 базавых велічыняў – за фатаграфаваньне зь бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Актывістаў вінавацілі ў парушэньні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (арт. 23.34 КаАП). Нібыта віцябляне, фатаграфуючыся з бел-чырвона-белым сцягам на фоне помніку Альгерду на Дзень Волі ў Віцебску, без дазволу зьдзяйсьнялі пікетаваньне. У якасьці доказаў супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС прыклалі да справы матэрыялы відэаздымкаў.

Разгляд усіх трох справаў быў прызначаны на адзін і той жа час 11 красавіка і разглядалі іх тры розныя судзьдзі: Ільля Белавус – справу Уладзімера Кійко, Уладзімер Царыкаў – справу Яраслава Кійко і Сьняжана Кіндзеева – Міколы Качурца.

Ніхто з абвінавачаных сваёй віны не прызнаў.

Як патлумачыў у судзе Мікола Качурэц, 24 сакавіка ён адзначаў вялікае сьвята – 101-я ўгодкі БНР: “Любое сьвята такога кшталту мусіць адзначацца са сьцягам. Бел-чырвона-белы сьцяг – сьцяг БНР. Лукашэнка на свае сьвяты вывешвае савецкія сьцягі, а я ўзяў з сабой БЧБ сьцяг, каб сфатаграфавацца ля помніку Альгерду і ў іншых месцах. Так я раблю кожны год. І нічога супрацьпраўнага ў сваіх дзеяньнях ня бачу”.

На ўсіх трох паседжаньнях у якасьці сьведкаў з боку міліцыі выступілі адны і тыя ж супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС – Ярашэўскі, Карпушка, Дзятлаў. Міліцыянты ня здолелі ўцямна патлумачыць у судзе, што такое пікетаваньне і зь якой прычыны трыманьне ў руках бел-чырвона-белага сьцяга для фатаграфаваньня яны палічылі за правапарушэньне.

Пры гэтым згадзіліся, што бел-чырвона-белы сьцяг у нашай дзяржаве не знаходзіцца пад забаронай.

Тым ня менш усе тры судзьдзі амаль сінхронна (з разьбежкай у 5 хвілінаў) прызналі віцяблян вінаватымі ў парушэньні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і аштрафавалі кожнага зь іх на 102 рублі (4 базавыя велічыні).

Праваабаронца: Пра ўсё было дамоўлена...

“Усё па шаблёну, ўсё па стандарту, – пракамэнтавала рашэньні судзьдзяў віцебская праваабаронца Ірына Трацякова. – Пра ўсё было загадзя дамоўлена, таму такія аднолькавыя пастановы і аднолькавыя штрафы. А мы цяпер не разумеем, з чым можна фатаграфавацца, дзе можна фатаграфавацца і колькі сэкунд можна фатаграфавацца, каб гэта не расцанілі як пікетаваньне…”.

Нагадаем, 24 сакавіка віцябляне адзначылі 101-ю гадавіну БНР ускладаньнем кветак да помнікаў князю Альгерду і Уладзімеру Караткевічу, а таксама да памятнай дошкі Васілю Быкава і да мэмарыялу, усталяванаму каля Усьпенскага сабору на месцы пахаваньня нявінна забітых грамадзянаў. Усё, што адбывалася падчас ушанаваньня, фіксавалася на фота- і відэакамэры супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным адзеньні. Але 24 сакавіка нікога не затрымлівалі і не папярэджвалі. Пратаколы на актывістаў складаліся цягам наступнага тыдня.

Зьміцер Міраш, С.Горкі,
«Віцебская вясна»

# АГІТАЦЫЙНЫЯ МАГЧЫМАСЬЦІ “ВЫБАРАЎ”

Як паведаміў старшыня Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, партыя плянуе скарыстаць тыя агітацыйныя магчымасьці, якія адчыняюцца падчас выбарчай кампаніі:

- Плянуем вылучаць кандыдатаў. Мы ўжо працуем. Разам зь іншымі рыхтуем каманду па арганізацыі назіраньня за выбарамі ў рамках кампаніі „Права выбару“. Мы разьлічвалі, што напрыканцы гэтага году адбудзецца выбарчая кампанія. Чаму дата 7 лістапада? Лукашэнка — прасавецкі чалавек, таму для яго савецкія сьвяты засталіся сьвятамі – камэнтар для Радыё Свабода.

Якім чынам да выбараў рыхтуецца Партыя БНФ на Гарадзеншчыне, распавядае намесьнік старшыні партыі і лідэр гарадзенскай арганізацыі БНФ **Вадзім Саранчукоў:**

– Існуе рашэнне зьезду, згодна з якім партыя будзе вылучаць свайго кандыдата. Ясна, што гэтае рашэньне можа быць скарэктавана ў залежнасьці ад сытуацыі, якая будзе складвацца ў краіне. Партыя БНФ будзе вылучаць сваіх кандыдатаў на парламенцкіх выбарах. Прынамсі тут, у Гародні, як мінімум адзін наш кандыдат будзе вылучацца. Хутчэй за ўсё, гэта буду я. Мы будзем выкарыстоўваць любую магчымасць для камунікацыі з людзьмі – сказаў Вадзім Саранчукоў у камэнтары Беларускаму Радыё Рацыя.

# ПАТРЭБНЫ ЗЬМЕНЫ Ў ВЫБАРЧЫМ ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**16 красавіка ў Менску кампанія назірання "Права выбару" правяла круглы стол "Выбарчае заканадаўства Беларусі і практыка прымянення: якія змены патрэбныя, і ці забяспечаць яны свабоду выбару".**

Былі агучаныя падтрыманыя кампаніяй "Права выбару" неабходныя змены ў Выбарчы кодэкс і дакументы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, абмеркаваныя неабходныя захады, якія можа зрабіць дэмакратычная супольнасць краіны дзеля абароны інтарэсаў выбаршчыкаў і сапраўдных вынікаў на бліжэйшых выбарах.

Удзел у круглым стале ўзялі прадстаўнікі кіраўніцтва "Права выбару", палітыкі, экспэрты і журналісты. Дакладчыкамі выступілі Вольга Кавалькова, Аляксей Сігаеў, Леў Марголін, Аляксандар Сілкоў. На круглым стале выступілі таксама кіраўнік АГП Мікалай Казлоў, старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, адзін з лідэраў партыі "Зялёныя" Зьміцер Кучук, экспэрты Валер Карбалевіч і Юры Чавусаў.

Удзельнікі круглага стала пагадзіліся, што базавыя ўмовы з'яўляюцца неспрыяльнымі для дасягнення якасных зменаў Выбарчага Кодэксу Беларусі і практыкі правядзення выбараў, ва ўладаў на бягучы момант адсутнічае сур'ёзная матывацыя дзеля перагляду падыходаў да правядзення выбарчых кампаніяў. Было адзначана таксама, што з кожнай выбарчай кампаніяй улады ўсё больш шырока выкарыстоўваюць праўрадавыя партыі і грамадзкія аб'яднанні дзеля спробаў дыскрэдытацыі незалежных назіральнікаў і перашкоды ім ў працы, а таксама дзеля легітымізацыі існуючых практыкаў правядзення выбараў. Але тым болей нават у цяперашніх умовах неабходна актыўна прасоўваць патрабаванні пра неабходнасць правядзення сапраўды свабодных і справядлівых выбараў паводле міжнародных стандартаў, а таксама арганізоўваць назіранне на ўсіх стадыях выбарчага працэсу. Было адзначана таксама, што назіранне набывае сваё сапраўднае значэнне перадусім на тых акругах, дзе прысутнічае моцны дэмакратычны кандыдат, які валодае значнай падтрымкай сярод людзей.

Кампанія назірання "Права выбару" працягне сваю працу па прасоўванні зменаў у заканадаўства і практыку правядзення выбараў.

Нагадаем, што у лютым 2019 году восем дэмакратычных аб'яднаньняў заявілі пра старт кампаніі назіраньня за выбарамі «Права выбару — 2019». Гэта Партыя БНФ, АГП, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП), БХД, «За свабоду», «Зялёныя», прафсаюз РЭП, Партыя свабоды і прагрэсу.

18 патэнцыйных парляманцкіх кандыдатаў ад арганізацыяў-удзельніц "Права выбару" пачалі ў лютым лякальныя сацыяльна-эканамічныя ды мабілізацыйныя кампаніі ў сваіх раёнах. "Права выбару" таксама падрыхтавала прапановы зменаў выбарчага заканадаўства ды практыкі яго прымянення ў Беларусі і працуе дзеля іх рэалізацыі. Асноўныя прапановы - гарантыя правоў партыяў і кандыдатаў пры фармаванні выбарчых камісіяў, абмежаванне датэрміновага галасавання і цалкам празрысты падлік бюлетэняў.

**У Віцебску актывісты Партыі БНФ і АГП запрашаюць жыхароў горада, якім патрэбныя новыя веды ў Выбарчым кодэксе і практычны досвед актыўнага назірання за працай участковых выбарчых камісій звяртацца да каардынатараў кампаніі назірання і праходзіць трэнінгі. Больш інфармацыі на сайце кампаніі pvby.org, пад тэгам #ПВ2019 ці па тэл.МТС 29-2189838**

# НА ПАРЛАМЕНТСКИХ ВЫБОРАХ ОППОЗИЦИЯ ВОЗЬМЕТ НА ТОТАЛЬНЫЙ КОНТРОЛЬ 18 ОКРУГОВ

**Восемь оппозиционных организаций проведут кампанию наблюдения «Право выбора» на предстоящих парламентских выборах.**

Как заявили представители этих организаций подписано соглашение о совместном проведении мобилизационной кампании для активного наблюдения на предстоящих выборах. Для наблюдения планируется выдвинуть около 1,5 тысячи человек.

Участники кампании намерены выдвинуть кандидатов в депутаты Палаты представителей своих партий и организаций. На 18-ти округах, где будут баллотироваться оппозиционные кандидаты, и будет организовано совместное наблюдение.

«Наши представители уже сейчас работают по содействию решения местных проблем, а также мобилизации жителей районов для участия в наблюдении за вывоорами, — сказал председатель БСДП **Игорь Борисов**. — Важная задача кампании «Право выбора» — организовать наблюдение не только силами партийных активистов, но и привлечь к совместной работе новых, далеких от политики людей».

Политики предполагают, что парламентские выборы могут быть назначены в конце текущего года, поэтому старт кампании наблюдения с начала февраля они не считают преждевременным.

«Мы ответственно заявляем, что демократические силы готовы объединиться для совместной борьбы за восстановление демократических принципов, за право белорусов избирать, контролировать и изменять свою власть», — заявил председатель Партии БНФ **Григорий Костусев**.

«Люди ждут от нас лидерства и помощи в том, чтобы их жизнь становилась лучше. И мы делаем для этого конкретные дела по всей стране. Это единственный путь, чтобы переубедить людей, что свободные выборы нужны не партиям, а простым гражданам», — добавила сопредседатель оргкомитета БХД О**льга Ковалькова**.

В ближайшие два года в Беларуси пройдут президентские и парламентские выборы. Согласно законодательству, выборы в Палату представителей должны пройти не позднее 10 сентября 2020 года, президента — не позднее 30 августа 2020-го. В связи с этим не исключено, что одна из избирательных кампаний состоится в 2019 году.

Сергей КОРОЛЕВИЧ

# ЧИНОВНИКИ ДЕЛАЮТ ВСЁ ВОЗМОЖНОЕ, И ДАЖЕ БОЛЕЕ...

**Борьба с тунеядцами продолжается, наши «Слуги народа», чиновники местного разлива, снова изобрели новую показуху для Минска…**

Помощь в трудоустройстве нуждающихся граждан, которые не могут или не хотят найти себе работу и тем самым не участвуют в экономике нашего молодого Государства. А заключается показуха в том, что в Администрациях районов собирается комиссия из 10-12 работников этой же администрации, на которую приглашаются все жители нашего города, желающие найти работу и тем самым избавиться от клейма тунеядца. Безработные люди приходят к ним в кабинет, стоят как первоклашки перед директором школы, и рассказывают, как и почему не смогли самостоятельно найти работу. В это время комиссия с умными выражениями своих лиц внимательно слушает своих холопов. После этого комиссия выписывает направление на хорошее предприятие и с хорошим заработком… Просящий в недоумении… Как так, он искал работу, обходил все предприятия и везде ему отказывали… А тут всего то надо было прийти на приём к этим великодушным людям и получить работу на хорошем предприятии и с хорошей заработной платой… Но здесь начинается самое интересное – человек приходит в отдел кадров предприятия, отдаёт направление от Администрации в котором написано: «Администрация … района направляет к Вам … для трудоустройства на Вашем предприятии…». Начальник отдела кадров, вздыхая и делая паузу, показывает стопку таких же направлений, лежащую у него на рабочем столе.

Тихим и спокойным голосом отвечает, что на его предприятии рабочих мест нет и в ближайшее время не предвидится.



Человек, который ещё 5 минут назад знал, что он идёт устраиваться на работу, так как его направила АДМИНИСТРАЦИЯ, человек, который ещё вчера обрадовал свою жену и детей, что начнёт работать и будет приносить в дом деньги и теперь семья расплатиться с долгами и начнётся новая жизнь (как по телевизору) опустив глаза идёт домой. Дома его ждёт счастливая семья с праздничным ужином в честь трудоустройства ХОЗЯИНА семьи… Дальнейшие сцены представьте сами…

А Администрация направляет бумагу в Минск о проделанной очень сложной и кропотливой работе. В этой бумаге написаны фамилии людей, которые комиссией были направлены на трудоустройство…. А трудоустроились они или нет это никого не интересует.

Помощь людям – одна из главнейших задач социального государства.

Бог всё видит и каждому воздастся по заслугам его…

Александр Ильинец

# ЗВАРОТ АРГКАМІТЭТА ЧАРНОБЫЛЬСКАГА ШЛЯХУ

**У 33-я ўгодкі аварыі на ЧАЭС, наступствы якой беларусы будуць адчуваць на сабе яшчэ доўга, мы не праводзім афіцыйна дазволенае ўладамі вулічнае жалобнае шэсце і мітынг памяці ахвяраў Чарнобыльскай радыяцыйнай катастрофы, а таксама традыцыйную вулічную акцыю пратэсту супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС.**

Віну за гэта мы ўскладаем на ўлады, якія ў гэтым годзе пачалі гандляваць канстытуцыйнымі свабодамі грамадзянаў, патрабуючы немалых грошай з удзельнікаў мірных дэманстрацый. Аргкамітэт Чарнобыльскага шляху не стаў плаціць уладам за права правядзення гэтай вулічнай акцыі – яна ўжо аплачаная жыццямі і здароўем людзей!

Памяць пра Чарнобыль не прадаецца, а пратэст не можа стаць камерцыйным шоу, асноўную выгаду ад якога атрымлівае рэпрэсіўная ўлада!

Але ў гэты дзень мы ўсе адзначаем гэтую дату так, як лічым патрэбным: мы распавядаем пра наступствы чарнобыльскай радыяцыйнай катастрофы і рызыках АЭС пад Астраўцом, робім выставы і кінапаказы, праводзім дыскусіі і шмат што іншае. Усе дзеянні маюць адну простую і зразумелую для нас мэту – спыніць атамны генацыд беларусаў.

Сёння мы не проста аддаем даніну памяці, інфармуем і заяўляем, але па-ранейшаму выстаўляем патрабаванні уладам:

- спыніць будаўніцтва Астравецкай АЭС як пагрозу нацыянальнаму суверэнітэту, эканамічна і энергетычна небяспечнае, якое нясе непрымальныя рызыкі для здароўя людзей і навакольнага асяроддзя; правесці кансультацыі пра мэтазгоднасць працягу мараторыя на будаўніцтва АЭС у Беларусі, якая не адпавядае інтарэсам краіны; распрацаваць і абмеркаваць з грамадскасцю стратэгію ўстойлівага бяз'ядзернага развіцця Беларусі;
- спыніць засваенне чарнобыльскіх зямель і вытворчасць там прадуктаў харчавання; даць жыхарам забруджаных тэрыторый рэальныя альтэрнатывы перасялення;
- аднавіць дзеянне закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС», прынятага ў 1991 годзе, які забяспечвае лепшую абарону ліквідатараў і пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС;
- спыніць палітычную і сацыяльную дэстабілізацыю ў краіне, адмяніўшы новае рэпрэсіўнае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (гэта папраўкі ў Закон «Аб масавых мерапрыемствах» і Пастанова Савета Міністраў №49), спыніўшы палітычныя рэпрэсіі;
- пачаць раўнапраўны і сумленны дыялог з грамадскасцю і стварыць дзейсныя механізмы для ўдзелу грамадзян у прыняцці рашэнняў; забяспечыць свабоду слова, сходаў, стварэння грамадскіх арганізацый і палітычных партый, забяспечыць правядзенне свабодных і празрыстых выбараў.

Да ўводу ў строй Астравецкай АЭС засталося не так шмат часу – менш за год! Калі будаўніцтва будзе спынена да пуску, гэта дасць магчымасць пазбегнуць высокіх выдаткаў на працу з небяспечным на працягу тысячагоддзяў адпрацаваным ядзерным палівам і непрымальных для беларусаў экалагічных рызыкаў. Гэта дасць шанец Беларусі захаваць суверэнітэт ва ўмовах росту ціску і, ў тым ліку, энергетычнага, з боку суседняй краіны. **Расійская АЭС на беларускай зямлі – гэта інструмент гібрыднай вайны, ён можа быць выкарыстаны пры любым лакальным канфлікце з удзелам Расіі.** Разбуральную сілу гэтага інструмента ужо паказаў Чарнобыль!

Не Астравецкай АЭС! Не радыяцыйнаму, сацыяльнаму і палітычнаму Чарнобылю!

У аргкамітэт ЧШ-2019 уваходзяць ПБНФ, «Зялёныя», аргкамітэт партыі «БХД», БСДП, ПАГА "Рух за свабоду", АГП, Рух салідарнасці «Разам», ГА Экадом.